# Сябры!

Выданьне, якое трапіла Вам у рукі, мае даволі працяглую гісторыю. Упершыню "Студэнцкая думка" пабачыла на сьвет як друкаваны орган Беларускага студэнцкага саюзу, утворанага ў 1920 годзе. Нягледзячы на тое, што дзейнасьць гэтай арганізацыі мела пераважна асьветніцкі характар, яна была зьнішчана напрыканцы 30-х гадоў пад час хвалі рэпрэсіяў . Крах савецкай сыстэмы напрыканцы 80-х садзейнічаў выхаду нацыянальнай ідэі з забыцьця і яе ўвасабленьню ў выглядзе дзяржаўнага сувэрэнітэту, аднаўленьня нацыянальнай сымболікі, звароту да роднай мовы, культуры і гістарычнай спадчыны. Разам з нацыянальнай сьвядомасьцю адрадзілася і "Студэнцкая думка". Ейным новым заснавальнікам і выдаўцом зноў сталася моладзь, згуртаваная ў грамадзкую арганізацыю "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў". Цяпер перад Вамі часопіс, які зьявіўся як вынік эвалюцыі грамадзкай і выдавецкай дзейнасьці Задзіночаньня.

На старонках гэтага выданьня мы будзем шукаць магчымасьці для самарэалізацыі асобы як у навучальнай сфэры, так і ў прасторы грамадзкай актыўнасьці. Мы будзем знаёміць Вас з рознымі сыстэмамі вышэйшай адукацыі, якія існуюць у сьвеце, з праблемамі і дасягненьнямі айчынных дзяржаўных і недзяржаўных ВНУ. Мы спадзяемся, што экскурс у гісторыю станаўленьня адукацыйнай сыстэмы і моладзевага руху на Беларусі, а таксама сучасны прававы статус беларускага студэнцтва будуць цікавымі для Вас. На апошняй старонцы Вы знойдзеце інфармацыю пра дзеючыя праграмы навучаньня за межамі Беларусі, пра новыя цікавыя выданьні і шмат чаго іншага.

Калі ў Вас ёсьць нейкія ідэі і прапановы, дасьледаваньні ці проста разважаньні, калі Вас турбуе нашая супольная будучыня – далучайцеся да нас!

*Рэдакцыя*

# Зьмест #5




**Выданьне заснавана:** Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў
**Рэдактар:** І.Віданава
**Карэктар:** В.Булгакаў
**Набор:** В.Шылай
**Вёрстка:** Цэнтар «Выдавецкая Ініцыятыва»

Наклад 299 асобнікаў




# Паліталягічная адукацыя на Беларусі




**Уладзімір Падкапаеў**
Рэспубліканскі Інстытут Вышэйшай школы пры БДУ, аспірант катэдры паліталёгіі і сацыялёгіі


Беларуская паліталёгія, як і сама Рэспубліка Беларусь, яшчэ даволі маладая. Катэдра паліталёгіі ў БДУ была створана ў 1991 годзе, а ў 1992 быў упершыню зроблены набор студэнтаў на аддзяленьне паліталёгіі. Першапачаткова гэтае аддзяленьне існавала на філязофска-эканамічным факультэце (паводле мадэлі МДУ), але ў адпаведнасьці з сусьветнымі тэндэнцыямі на збліжэньне паліталёгіі і правазнаўства аддзяленьне паліталёгіі ў 1994 годзе было пераведзена на юрыдычны факультэт з пэрспэктывай наданьня выпускніку кваліфікацыі “паліто-ляг-юрыст”.

Першыя тры гады студэнты-палітолягі атрымліваюць агульна-гуманітарную ўнівэрсытэцкую адукацыю, ідэнтычную для ўсяго юрфаку. Шмат гадзін навучальнага пляну аддадзена такім дысцыплінам, як філязофія, сацыялёгія, псыхалёгія, культуралёгія, гісторыя. Пасьля трэцяга курсу студэнты накіроўваюцца на навучальную практыку ў розныя дзяржаўныя ўстановы (часьцей за ўсё ў адміністрацыі раёнаў), дзе на працягу аднаго месяца яны павінны азнаёміцца з практычнымі аспэктамі функцыянаваньня дзяржаўнага апарату. Патрэбна адзначыць, што з 1-га па 4-ты курс студэнты вывучаюць дысцыпліны юрыдычнага профілю, якія складаюць каля 35% усяго навучальнага курсу. Гэта адміністрацыйнае права, дзяржаўнае права замежных краін, дзяржаўны працэс, фінансавае права, гаспадарчае права і інш. У гэты ж час навучальная праграма прадугледжвае выкладаньне пяцёх асноўных разьдзелаў палітычнай навукі: палітычная тэорыя, параўнальная палітыка, кіраваньне і адміністрацыя, мэтадалёгія і мэтады палітычнай навукі, міжнародныя стасункі. У гэтых накірунках студэнтам чытаецца каля 30 спэцкурсаў, і сярод іх курсы ў вывучэньні грамадзка-палітычнага становішча на Беларусі: рэлігійныя канфэсіі ў РБ, грамадзкія рухі і палітычныя партыі, палітычныя традыцыі.

Такім чынам, пасьля пяцёх год навучаньня, абараніўшы дыплёмную працу і вытрымаўшы адзін дзяржаўны іспыт, выпускнік будзе мець магчымасьць выкладаць у вышэйшых навучальных установах, працаваць у органах кіраваньня і іншых палітычных структурах, а юрыдычная падрыхтоўка дазволіць яму працаваць і ва ўстановах, якія прадугледжваюць наяўнасьць юрыдычнай адукацыі. Калі ж былы студэнт пажадае вучыцца далей, то катэдра паліталёгіі, якую ўзначальвае доктар палітычных навук, прафэсар Рашэтнікаў С.В., рыхтуе асьпірантаў і дактарантаў у спэцыяльнасьці “Тэорыя і гісторыя палітычнай навукі” і “Палітычныя інстытуты і працэсы”.У гэтых жа спэцыяльнасьцях асьпірантаў рыхтуе і Рэспубліканскі Інстытут Вышэйшай школы пры БДУ.

Катэдра паліталёгіі Белдзяржунівэрсытэту пасьпяхова супрацоўнічае з Каліфарнійскім дзяржаўным унівэрсытэтам Фрэсно (ЗША) і Інстытутам палітычных навук Варшаўскага ўнівэрсытэту, і такім чынам выкладчыкі, асьпіранты катэдры, студэнты-палітолягі маюць магчымасьць стажавацца і праходзіць навучаньне ў названых установах.

З 1995 году актыўна дзейнічае Рэспубліканская асацыяцыя студэнтаў-палітолягаў – грамадзкая арганізацыя, дзякуючы якой студэнты розных ВНУ павышаюць свой узровень ведаў у сфэры палітычных навук, удзельнічаючы ў сэмінарах і канфэрэнцыях як у РБ, так і за яе межамі.

На сёньняшні час адбыўся толькі адзін выпуск палітолягаў – першы выпуск 1997-ага году. Дваццаць чатыры чалавекі (уся група), сярод якіх 9 выпускнікоў атрымалі дыплём з адзнакай, адразу ж пасьля заканчэньня былі запатрабаваны: адныя працуюць у сыстэме дзяржаўнага кіраваньня, другія - на юрыдычнай ніве, трэція выкладаюць у ВНУ. І галоўнае – усе ў адпаведнасьці з атрыманай спэцыяльнасьцю.

# Навучаньне палітычных навукаў і фармаваньне палітычнай кар'еры ў Бэльгіі

Фрэдэрык Сэйнхэв
парлямэнцкі асыстэнт (Бельгія)



**Сыстэма вышэйшай адукацыі**

У Бэльгіі адукацыя зьяўляецца абавязковай для людзей да 18 год. Па сутнасьці гэта ўзрост, калі большасьць навучэнцаў канчае сярэднюю школу. Пасьля яе заканчэньня паўстаюць шматлікія магчымасьці працягваць навучаньне ў разнастайных ВНУ:

**А** вышэйшая адукацыя кароткатэрміновая (3 гады);
**Б** вышэйшая адукацыя доўгатэрміновая (4 гады);
**В** унівэрсытэцкая адукацыя.
- унівэрсытэцкі ліцэнцыят (навуковая ступень) (4 ці 5 год);
- унівэрсытэцкі дыплём (узровень ліцэнцыяту плюс 1 год);
- ступень унівэрсытэцкага выкладаньня (5 ці 6 год);
- доктарская унівэрсытэцкая ступень (7 ці 8 год).

Варта зазначыць, што сытуацыя з працоўным рынкам у Бэльгіі вельмі праблематычная (узровень беспрацоўя складае прыблізна 12%), і таму вельмі істотна мець вышэйшую інстытуцкую або ўнівэрсытэцкую адукацыю. Чым вышэйшая катэгорыя вашага дыплёму, тым лепш будзе аплочвацца ваша працоўнае месца.

Узровень адукацыі будзе залежаць ад тыпу адукацыі, якую вы абераце для сябе. Падрыхтоўка мэдычных сёстраў, настаўнікаў пачатковых школаў ці супрацоўнікаў установаў сацыяльнага забясьпячэньня, напрыклад, ажыцьцяўляецца толькі на ўзроўні кароткатэрміновай вышэйшай адукацыі. Іншыя прафэсіі, такія як архітэктар, можна атрымаць на ўзроўні доўгатэрміновай вышэйшай адукацыі. Нарэшце, прафэсіі інжынэра або юрыста даюцца толькі ўва ўнівэрсытэце.

**Навучаньне палітычных навукаў**

Навучаньне палітычных навукаў адбываецца толькі на ўзроўні ўнівэрсытэцкай адукацыі. Ліцэнцыят такога тыпу вы можаце атрымаць у шматлікіх унівэрсытэтах Бэльгіі (Вольны Ўнівэрсытэт Брусэлю, Каталіцкі Ўнівэрсытэт Лювэну і інш.). Апрача таго, для асобаў, якія ўжо працуюць, ёсьць магчымасьць праходжаньня праграмы вечаровых заняткаў.

Праграма ліцэнцыяту палітычных навук разлічана на 4 гады навучаньня. У большасьці ўнівэрсытэтаў яна арганізавана ў рамках факультэту палітычных, эканамічных ці грамадзкіх навук. З гэтай прычыны першыя два гады (т.зв. "кандыдаты") уключаюць праграму заняткаў, якая можа быць супольнай для студэнтаў факультэтаў палітычных, эканамічных, сацыяльных і журналісцкіх навук. Спэцыяльныя дысцыпліны зьяўляюцца на гэтым этапе галоўнымі. Два наступныя гады ўключаюць больш спэцыялізаваныя дысцыпліны палітычных навук. Апрача таго, пасьля ліцэнцыяту вы маеце магчымасьць атрымаць ступень унівэрсытэцкага выкладчыка або доктарскую ступень. Нарэшце, атрыманьне дыплёму палітычных навук пасьля аднаго году навучаньня (адпаведнага паводле зьместу двум апошнім гадом ліцэнцыяту) зьяўляецца даступным для тых, хто ўжо мае які-небудзь іншы ўнівэрсытэцкі ліцэнцыят.

**Два першыя гады ("кандыдаты")**

Некаторыя заняткі тут зьяўляюцца абавязковымі. Сярод іх на першым курсе базавага навучаньня ёсьць:

- палітычная эканоміка;
- уводзіны ў сацыялёгію;
- матэматыка;
- уводзіны ў правазнаўства;
- гісторыя заходняй цывілізацыі;
- статыстыка;
- псыхалёгія;
- ангельская мова.

На другім курсе дадаюцца яшчэ некаторыя абавязковыя для наведваньня дысцыпліны:

- сацыялёгія (два розныя курсы);
- псыхасацыялёгія;
- палітычныя навукі;
- статыстыка і прагназаваньне;
- інфарматыка;
- ангельская мова;
- палітычная эканоміка (аналіз ролі дзяржавы ў сацыяльнай эканоміцы);
- пэўныя курсы з мэтадалёгіі і дакумэнтацыі.

Апрача названых тэарэтычных дысцыплінаў абавязковым зьяўляецца наведваньне аднаго сэмінару, дзе кожны студэнт мусіць публічна прэзэнтаваць аўдыторыі працу на абраную ім на жаданьні тэму. Гэтыя сэмінары могуць быць прысьвечанымі эканамічным або сацыяльным праблемам, такім як рэкляма, сацыяльная палітыка, новыя тэхналёгіі, Эўрапейская Супольнасьць, культура і інш.

Урэшце, ёсьць шэраг дысцыплінаў, якія можна наведваць па жаданьні: галяндзкая мова, антрапалёгія, дзяржаўнае права, мэнэджмэнт і інш.

**Два апошнія гады**

Колькасьць і аб'ём заняткаў робяць трэці год навучаньня самым цяжкім у гэтым тыпе адукацыі. Гэтыя два апошнія гады падзеленыя на дзьве роўныя часткі: спэцыялізацыя "грамадзкае ўладкаваньне" і спэцыялізацыя "міжнародныя стасункі". Пэўныя курсы зьяўляюцца супольнымі для дзьвюх гэтых плыняў, а іншыя – спэцыялізаванымі для кожнай зь іх.

**Агульныя дысцыпліны**

Тут гаворка ідзе пра курсы палітычнай сацыялёгіі, розных палітычных і ідэалягічных сыстэм, іх практычных мадыфікацый, рэалізаваных сучаснымі дзяржавамі, палітычнай філязофіі. Апроч ангельскай можна вывучаць таксама і замежныя мовы (арабскую, расійскую, нямецкую і інш.).

**Спэцыялізацыя "грамадзкае ўладкаваньне"**

Асноўная ўвага тут надаецца вывучэньню інстытутаў і мэханізмаў функцыянаваньня дзяржавы, праблемам кіраваньня нацыянальнай дзяржаўнай палітыкай і ролі адміністрацыі ў ёй. Галоўныя дысцыпліны — фінансы, адміністрацыйнае права, эканоміка і грамадзкія арганізацыі, дзяржаўная палітыка.

Гэтая праграма аднолькавая па сутнасьці для ўсіх унівэрсытэтаў, хаця яе форма можа крыху зьмяняцца. Апрача таго, існуюць міжнародныя і эўрапейскія праграмы ўнівэрсытэцкага абмену, якія даюць магчымасьць на працягу 3-х або 6-цёх месяцаў навучацца за межамі Бэльгіі ў любой краіне – сябры Эўрапейскай Супольнасьці або Паўночнаамэрыканскай Супольнасьці (Канада і ЗША).

Спэцыялізацыя "грамадзкае ўладкаваньне" прадугледжвае вельмі паглыбленае вывучэньне палітычных навук, надзвычай высокі ўзровень ведаў, але пераважна тэарэтычных. Хаця шмат якія курсы патрабуюць выкананьня практычных задач, студэнт па сутнасьці ніколі не бывае сапраўды ўцягнутым у палітычнае жыцьцё, у дзейнасьць нацыянальных або міжнародных інстытуцый. Мэта гэтага ўнівэрсытэцкага навучаньня палітычных навукаў палягае ў фармаваньні спэцыялістаў, здольных да развагі, аналізу, ацэнкі сытуацыі, якія складваюцца ў сьвеце палітыкі і эканомікі. Неабходна, каб яны маглі адаптавацца да розных прафэсійных сытуацый і вырашаць праблемы, якія пры гэтым узьнікаюць.

**Спэцыялізацыя "міжнародныя стасункі"**

Мэта гэтага кірунку — аналіз дзейнасьці розных суб'ектаў палітычнага, эканамічнага і міжнароднага культурнага жыцьця. Тут вывучаецца палітыка, якая праводзіцца як асобнымі дзяржавамі, так і міжнароднымі арганізацыямі, а таксама міжнародная юрыдычная практыка.

Асноўнымі зьяўляюцца дысцыпліны, накіраваныя на вывучэньне разнастайных тэорый міжнароднай палітыкі, гісторыі міжнародных стасункаў, міжнароднай палітыкі Бэльгіі, сусьветнага і эўрапейскага права, дыпляматыі, палітычных праблем Азіі, Амэрыкі і Афрыкі, вонкавай палітыкі Эўрапейскай Супольнасьці і інш.

працяг на ст.15

# У дэмакратычнае грамадзтва «гуляючы»

Ірына Віданава

У 1996 годзе зьявіўся праект, які ставіў на мэце падтрымку трэцяга сэктару на Беларусі і яго структурызацыю. У яго напісаньні ўзялі ўдзел: Валійскі саюз добраахвотнікаў, Інстытут Дэмакратыі ва Усходняй Эўропе, Маладзёвы Інфармацыйны Цэнтар (Беларусь, Менск), Цэнтар «Супольнасьць» (Беларусь, Менск), Жаночы дыскусійны клюб (Беларусь, Менск), "Кола сяброў" (Беларусь, Магілёў). Падобная ініцыятыва была сваечасная: за другую палову 80-х–90-я гады на Беларусі, нягледзячы на ўсе пэрыпэтыі палітычнага жыцьця, зьявілася і разгарнула дзейнасьць шмат грамадзкіх арганізацый. Этап іх пачатковага станаўленьня мінуў і ўзьнікла аб'ектыўная патрэба ў авалоданьні спэцыфічнымі навыкамі працы ў грамадзкіх арганізацыях, мэтадычных матар'ялах і дасьведчаных кадрах. Праект быў падтрыманы і ўлетку 1997 году прафінансаваны праграмай Phare-Tacis (ініцыятыва Эўрапейскага Саюзу для аказаньня дапамогі ў разьвіцьці дэмакратычнага грамадзтва ў краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, СНД і Манголіі) і фундацыяй «Адукацыя для Дэмакратыі» (Польшча). Аднак за пэрыяд ад моманту напісаньня праекту да яго фінансаваньня адбыліся некаторыя зьмены ў грамадзка-палітычнай сытуацыі на Беларусі, — відавочна актывізавалася моладзь. Тым ня менш толькі невялікі працэнт гэтай групы насельніцтва быў уцягнуты ў дзейнасьць недзяржаўных грамадзкіх арганізацый. У адпаведнасьці з новымі рэаліямі жыцьця ў праект уносяцца карэктывы — увага засяроджваецца на маладзёвых арганізацыях, перш за ўсё ў рэгіёнах. Асноўнай ідэяй праграмы стаецца стварэньне агульнарэспубліканскай трэнэрскай групы для правядзеньня сэмінараў.




У чырвіні 1997 году адбыўся сэмінар у Друскенінках (Летува). Праводзілі яго Кшыштаф Станоўскі («Адукацыя для Дэмакратыі») і два першыя беларускія трэнэры – Канстанцін Хадыка і Максім Чарняўскі. Удзельнічала пятнаццаць чалавек – запрошаныя кіраўнікамі праекту прадстаўнікі маладзёвых арганізацый, якія ўжо мелі досьвед трэнэрскай працы. Гэты сэмінар быў першым сярод тых, якія мелі на мэце падрыхтоўку трэнэраў. Фактычна, праграма прадугледжвала два шляхі рэалізацыі пастаўленых задач, а менавіта: падрыхтоўку беларускіх трэнэраў для працы на мясцох і правядзеньне гэтымі новымі спэцыялістымі рэгіянальных сэмінараў з шырокага спэктру тэмаў.

За лета-восень 1997 году прайшла сэрыя трэнэрскіх сэмінараў: ліпень – Наваградак, пад кіраўніцтвам сябры Валійскага Саюзу Джэйн Льюіс. Удзельнічала каля дваццацёх чалавек. Верасень – Наваполацак, пад кіраўніцтвам Джэйн Льюіс і Філіпа Прэсіда. 7-11 лістапада – Горадня, куды запрасілі тых, хто ня



ўдзельнічаў у чырвенскім сэмінары ў Друскенінках. Людзі, якія прайшлі курс для трэнэраў з трох сэмінараў, атрымлівалі права на карыстаньне мэтадычнай літаратурай, распрацаванай фундацыяй «Адукацыя для Дэмакратыі», і пасьля самастойнага правядзеньня аднаго сэмінару ўзнагароджваліся спэцыяльнымі дыплёмамі. Апрача таго, адбываўся актыўны абмен досьведам паміж беларускімі трэнэрамі і іх калегамі з замежжа.

Разам усё гэта дало плён. Ужо ў жніўні 1997 году ў Гальшанах (Ашмянскі раён) адбыўся першы рэгіянальны трэнінг, які быў праведзены Канстанцінам Хадыкам і Алесяй Карнейчык.

Ініцыятарам правядзеньня падобнага рэгіянальнага сэмінару ў пэўнай мясцовасьці выступаў сябра любой маладзёвай арганізацыі, які з сваёй прапановай мог зьвярнуцца да дырэктара праграмы Паўла Казанэцкага ці да яе каардынатараў. Калі заяўка прымалася, то мясцовы арганізатар сам вызначаў склад удзельнікаў будучага трэнінгу.Тэматычная прастора сэмінараў - вельмі шырокая: дэмакратычнае лідэрства; плянаваньне дзейнасьці арганізацый; вядзеньне перамоў; напісаньне праектаў; структура дэмакратычных арганізацый; парлямэнцкія працэдуры; праца з валанцёрамі; рэкрутаваньне валанцёраў; актыўныя мэтады навучаньня (для настаўнікаў); вучнёўскае ды студэнцкае самакіраваньне.

Фундацыя «Адукацыя для Дэмакратыі», а таксама Валійскі саюз дабраахвотнікаў забясьпечылі трэнэраў ня толькі мэтадычнай літаратурай, але і гатовымі сцэнарамі правядзеньня падобных сэмінараў. Ад трэнэраў жа патрабавалася правядзеньне заняткаў на беларускай мове. Усяго зь верасьня да канца 1997 году было праведзена больш за дзесяць трэнінгаў па ўсёй Беларусі (глядзі карту).

Так прайшла першая палова праграмы. Было вырашана зрабіць невялікі перапынак, каб падвесьці вынікі. З гэтай мэтай і сабраліся беларускія трэнэры ў Берасьці 14-15 лютага 1998 году. Падчас сустрэчы аналізаваліся праведзеныя сэмінары, уручаліся дыплёмы, разглядаліся новыя магчымасьці правядзеньня трэнінгаў. Былі таксама адзначаны недахопы і складанасьці, зь якімі сутыкнуліся арганізатары сэмінараў. Высьвятлілася, што працаваць удвух складана (лепш, каб было тры чалавекі), што склад удзельнікаў, якіх падбіраў сябра мясцовай маладзёвай арганізацыі, не заўсёды адпавядаў працоўнаму і прафэсійнаму ўзроўню сэмінару.

У сувязі з гэтым была прынята новая сыстэма працы ў форме пісьмовых заявак. Сярод асоб, якія прымалі ўдзел у сэмінарах або проста ведалі пра існаваньне праграмы, сталі распаўсюджваць бланкі, дзе арганізатар будучага трэнінгу мусіў зьмясьціць дакладную інфармацыю пра сябе, тэму, мэты, месца і тэрмін правядзеньня сэмінару, а таксама зьвесткі пра заплянаваных удзельнікаў. У бланках зьмяшчаўся сьпіс прыкладных тэмаў. Ужо на сустрэчы трэнэраў у Берасьці былі разгледжаны заяўкі, пададзеныя на люты-сакавік 1998 году. Вынікам іх адбору стала прызначэньне дзевяцёх сэмінараў, у тым ліку двух чатырохдзённых па вучнёўскім самакіраваньні і інтэрактыўных (г.зн. заснаваных на чынным узаемадзеяньні) мэтадах навучаньня для настаўнікаў.

Аднак, галоўным вынікам сустрэчы стала зьмястоўнае пераасэнсаваньне трэнэрскай працы ў выглядзе рашэньня аб стварэньні трэнэрскай Асацыяцыі як асобнай арганізацыі. Быў абраны арганізацыйны камітэт зь пяцёх чалавек, які цяпер займаецца падрыхтоўкай пытаньняў Устаноўчага сходу, Статуту, а таксама пытаньнямі рэгістрацыі Асацыяцыі.

Між тым працягваецца праца па асноўнай праграме, якая будзе дзейнічаць да траўня 1998 году. Ужо цяпер фінансуецца новы праект па арганізацыі конкурсу на дваццаць сэмінараў як для трэнэрскіх камандаў, якія жадаюць правесьці нейкі трэнінг, так і для арганізацый, якія жадаюць, каб сэмінар правялі для іх. Журы з чатырох чалавек (па адным прадстаўніку ад фундацыі «Адукацыя для Дэмакратыі», Маладзёвага інфармацыйнага цэнтра, Аб'яднаньня беларускіх скаўтаў і Маладзёвага адукацыйнага цэнтра "Пост") разглядае пададзеныя заяўкі і адбірае найбольш цікавыя зь іх.

**Таму, калі ў вас ёсьць нейкія ідэі і вы шукаеце магчымасьць іх рэалізаваць, вы маеце шанец зрабіць гэта менавіта тут, на Беларусі.**

# Саюз Беларускіх Патрыётаў

## Глыбокае-Паставы

## 1945-1947

Алег Гардзіенка

Гісторыя Заходняй Беларусі ў міжваенны пэрыяд нагадвае разьменную манэту ў палітычных гульнях некалькіх краін: з 1919 па 1941 гады ўлада тут зьмянілася сем разоў. За гэты час узгадавалася цэлае пакаленьне, якое, фактычна, было пазбаўлена Радзімы. Але ніводны ўрад за гэты час ня здолеў выкараніць тое, што выхоўвалася стагодзьдзямі: роднай па-ранейшаму была беларуская мова, чыталі тут Я.Купалу, М.Багдановіча, А.Гаруна, ведалі, што ёсьць бел-чырвона-белы сьцяг і “Пагоня”... Другая сусьветная вайна ўнесла свае карэктывы ў жыцьцё цэлых нацый, краін, кантынэнтаў. Але пасьля першых месяцаў вайны нават фашысцкія ўлады былі вымушаны пачаць лічыцца з натуральным ходам чалавечага жыцьця. Правал “бліцкрыгу”, відавочная непазьбежнасьць працяглай вайны патрабавалі стварэньня сыстэмы кіраваньня на падпарадкаваных тэрыторыях. І зноў заходнебеларуская карта была выкарыстана ў ваенна-палітычных мэтах. Нямецкія ўлады пачалі выкарыстоўваць нацыянальныя пачуцьці той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая спадзявалася аднавіць дзяржаўную незалежнасьць сваёй краіны пры дапамозе фашысцкага рэжыма. Зрабіць Беларусь, зь яе выгодным геаграфічным становішчам пранямецкай было стратэгічна важна. Тым ня менш аніякіх дзяржаўных установ беларусы не атрымалі, хаця ў рукі мясцовай інтэлігенцыі і было перададзена кіраўніцтва культурнымі і асьветніцкімі справамі. Была створана сетка беларускіх школаў, у якіх беларускія ж настаўнікі вучылі дзяцей беларускай мове і новаму прадмету – гісторыі Беларусі. Нямецкая прысутнасьць акрэсьлівалася ў школах аднэй гадзінай нямецкай мовы ў тыдзень і партрэтам Гітлера.

У сваіх успамінах старшыня СБП Васіль Мядзелец піша: “Я ня ўспомню ніводнага прыкладу, каб у нас у школе вучылі пакланяцца Гітлеру, ягоным ідэям. Здаецца, нам калі-некалі расказвалі пра ваенныя посьпехі немцаў. Але за год вучобы ні разу школу не наведаў ніводны чын зь нямецкай адміністрацыі. Нямецкая мова выкладалася ў нас як адзін з прадметаў. Нашыя настаўнікі давалі нам веды аб прыродзе, аб сьвеце, аб чалавеку. Што праўда, вучылі любіць Беларусь, служыць ёй. У школе панаваў сапраўдны беларускі дух. Усё выхоўвала любоў да свайго роднага. Настаўнікі і вучні гаварылі толькі па-беларуску. Граматыку мы вывучалі па Тарашкевічу, гісторыю – па Ластоўскаму, геаграфію – па Смолічу...”

На фармаваньне нацыянальнага сьветапогляду беларускіх юнакоў і дзяўчат адбілася заснаваньне і дзейнасьць Саюзу Беларускай Моладзі, які хоць і быў створаны пад эгідай нямецкіх уладаў, стаяў на прынцыпах патрыятычнага выхаваньня маладога пакаленьня, імкнуўся ўзгадаваць новую генэрацыю моладзі, якая б здолела працаваць на карысьць Беларусі. Цяпер дзейнасьць гэтай арганізацыі ацэньваецца палярна па-рознаму, але нельга аспрэчыць ні факту яе існаваньня, ні таксама наяўнасьці пэўнага ўплыву на тагачасную беларускую моладзь.

У 1944 г. тэрыторыя Беларусі была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. І нягледзячы на тое, што Заходняя Беларусь на момант пачатку вайны знаходзілася ў складзе СССР толькі паўтара году, яе



жыхары ўспрынялі прыход Чырвонага войска як збавеньне.

Маладыя людзі, што вучыліся за нямецкім часам у школах, сэмінарыях, пайшлі вучыцца далей у пэдвучэльні і савецкія школы. Аднак чарговая зьмена ўлады пацягнула за сабой зьмены і ў сыстэме адукацыі, бо перад ёй ставіліся новыя выхаваўчыя задачы.

Былых сэмінарыстых панізілі на курс, нібыта даючы зразумець недабраякасны ўзровень адукацыі пад немцамі, настаўнікаў-патрыётаў арыштоўвалі як ворагаў, а на іх месца прызначалі новых – зь нізкай адукацыяй, зь няведаньнем беларускай мовы, мясцовых звычаяў.

У Пастаўскай пэдвучэльні пачалася гвалтоўная русіфікацыя. Настаўнікі з Расеі выразна далі зразумець, што яны будуць вучыць па-расейску, і, больш за тое, адказваць ім трэба таксама на расейскай мове, і, каб навучэнцы лепш зразумелі (а ім было па 14-17 год), за адказы па-беларуску ім пачалі зьніжаць адзнакі.

Паводле ўспамінаў Алесі Умпіровіч яе каляжанка Таня Конаш за беларускае слова “прастастаўнік” (рас. пэрпэндыкуляр) атрымала двойку. Студэнты ў знак пратэсту адмовіліся ісьці на заняткі. Дырэктар пэдвучэльні выгнаў іх усіх на лінейку і запытаў: “Кто не желает заниматься на русском языке – шаг вперед!”- Спадзяваўся, канечне, што мы спалохаемся. Але мы ўсе зрабілі крок наперад. Фішкін (дырэктар – заўвага аўт.) толькі перасмыкнуў губамі і прасіпеў: “Фашисты! Националисты! Не я буду, если вас не разгоню”. Праблема была яшчэ і ў тым, што студэнты папросту ня ведалі расійскай мовы. Яны размаўлялі на дыялекце, на чыстай беларускай мове, а расійскай добра не ведалі.

Напачатку навучэнцы думалі, што “русіфікацыя” гэта асабістая ініцыятыва новага дырэктара. Пачалі зьвяртацца ўва ўсе магчымыя інстанцыі, але хутка прыйшло разуменьне, што гэта – новая дзяржаўная палітыка. Вось што распавядае Алесь Амельяновіч:

“На такой глебе ў навучэнцаў зусім натуральна ўзьнікла нязгода, пачуцьцё ўшчэмленасьці, жаданьне процістаяць... І мне даводзілася мець гутаркі на гэты конт з сваімі сябрамі. Найперш з Алесем Дзікім, зь Мікалаем Асіпенкам, Валянцінам Пагуненкам. Гэтыя хлопцы, самыя аўтарытэтныя на курсе, выдатнікі вучобы, прыкладныя ўва ўсім, мелі вялікі ўплыў на астатніх. Я згаджаўся зь імі, што, сапраўды, трэба трымацца разам, не паддавацца і як мага супрацьдзейнічаць той настырнай русіфікацыі, якую адчулі ў пэдвучэльні”.



Глыбокае - архіўны здымак

Алесь Амельяновіч вучыўся ў Паставах. Асноўны цэнтар руху знаходзіўся ў Глыбокім. Ініцыятарамі заснаваньня Глыбоцкага асяродку былі студэнты Васіль Мядзелец, Алесь Юршэвіч, Антон Фурс. У арганізацыі не было дакладнага разьмежаваньня абавязкаў, не было і строгай дысцыпліны, як гэта належыць клясычным тайным таварыствам.

Пачалося ўсё стыхійна. У Глыбоцкай вучэльні разам вучыліся сябры дзяцінства - Васіль Мядзелец, Антон Фурс, Леў Бялевіч (яны вучыліся яшчэ пры немцах у Язьненскай беларускай школцы). Таксама ў Глыбокім скончыў школу іх добры сябра Алесь Юршэвіч. Іх сустрэчы засталіся б папросту сяброўскімі, калі б не занепакоенасьць справай русіфікацыі і не ідэя стварыць арганізацыю, якая б гуртавала аднадумцаў, стаяла б на беларускім грунце і пашырала свой уплыў на астатніх. Хто першы падаў такую думку, невядома. Вось што кажа Васіль Мядзелец:

"Думка наша была агульная. Мы ведалі, што і іншыя думаюць гэтак жа".

Гэта былі маладзенькія хлопцы і дзяўчаты (па 17-18 год), якія верылі ў справядлівасьць і яшчэ не разумелі, што нацыянальная сьвядомасьць ува ўмовах савецкай таталітарнай дзяржавы зьява забароненая і небясьпечная. Яны не прадбачылі, які лёс іх чакае, мо таму з энтузіязмам узяліся за справу. Напачатку гутарылі з надзейнымі хлопцамі і дзяўчатамі. Пасьля Алесь Юршэвіч прапанаваў стварыць арганізацыю на ўзор колішніх філяматаў і філярэтаў XIX стагодзьдзя. Прапанову прынялі. Старшынём абралі Васіля Мядзельца, сакратаром – Антона Фурса".

Такім чынам, арганізацыя была ўтворана недзе ўвосень 1945 году. Гэты асяродак ніякіх мэтаў перад сабой ня ставіў: непакоіліся за мову, за Айчыну, выступалі за адраджэньне беларускай мовы, беларускай гістарычнай сымболікі - бел-чырвона-белага сьцягу і гербу "Пагоня". Ад філяматаў СБП пераняў некаторыя прынцыпы: прыняцьце сяброў па рэкамэндацыі, прадугледжвалася і канспірацыя. Усе ўдзельнікі падзяляліся на пяцёркі. Кожны з чацьвёркі ведаў чатырох астатніх і кіраўніка арганізацыі. Гэта было зроблена, каб пазьбегчы стратаў і з асьцярогай ад правала.

У СПБ была распрацаваная прысяга, якая насіла характар слова гонару, маральнага абавязку. Вось яе зьмест: "Я (прозьвішча і імя), уступаючы ў СПБ, прысягаю перад Бацькаўшчынай і беларускім народам, што заўсёды буду верны ідэалам свабоды і незалежнасьці Беларусі. Калі ж па слабасьці сваёй або па злому намеру я парушу гэтую прысягу і выдам тайну сяброў, хай пакарае мяне Бог ганебнай сьмерцю здрадніка Радзімы". Ні статут, ні праграма не фігуравалі ў справе, іх фактычна яшчэ не было, бо над імі працавалі: не захавалася нават ні чарнавікоў, ні запісаў.

Галоўнай задачай СПБ была тлумачальная, асьветніцкая праца, якая не прадугледжвала ні сходаў, ні канфэрэнцый. Яшчэ не была распрацавана норма правоў і абавязкаў, прынятых у СПБ. Прыём у арганізацыю быў спрошчаны да мінімуму. Ад кожнага кандыдата патрабавалася рэкамэндацыя толькі аднаго сябра СПБ. Пасьля чаго навічок прымаў прысягу ў прысутнасьці пяцёркі: уступленьне ў арганізацыю нідзе афіцыйна не рэгістравалася.

Існавала прыкладная праграма: "Сапраўдная, а не дэклярацыйная дзяржаўнасьць, незалежнасьць Беларусі. Дзяржаўнасьць беларускай мовы, бел-чырвона-белы сьцяг, герб "Пагоня". Патрабаваньне сувэрэнітэту, свабоднага разьвіцьця беларускага народу як этнасу. Тут мы былі бескампрамісныя. Дапускалі і такі варыянт: выхад Беларусі з СССР". (Успаміны В.Мядзельца).

Хацелася б адзначыць, што ў гэтым "выхадзе з СССР" не было нічога "антысавецкага" – выхад з Савецкага Саюзу прадугледжаны нават Канстытуцыяй. А потым сябрам СПБ гэта інкрымінавалася як самае цяжкае злачынства.

Таксама праграмай не былі абыдзенныя і другія важныя для насельніцтва праявы: дэмакратызацыя, свабода партый, слова, сходаў, сумленьня. Селянін мог сам абіраць сабе форму права на зямлю: ці ў калгасе, ці аднаасобна.

Сваёй першаснай задачай сябры СПБ ставілі несьці ідэі беларускасьці ў масы. Яны ж павінны былі ў хуткім часе скончыць свае вучэльні, і разьехацца па мясцох працы. Вось што распавядае Людміла Краснадубская: «Не магу сказаць, што наш СПБ вёў нейкую чынную работу. Зьбіраліся рэдка, якіх-небудзь акцый не плянавалі і не праводзілі. Бадай, там мы і адчувалі прыналежнасьць да арганізацыі, што былі зьвязаныя прысягай, што ўзялі на сябе пэўныя абавязкі, прынялі пэўныя жыцьцёвыя правілы.І такая ж самая праца вялася і ў школах».

Цікавая падзея адбылася 25 сакавіка 1946 году. На гэты дзень Васіль Мядзелец і Алесь Юршэвіч прызначылі афіцыйнае стварэньне СПБ, прымеркаваўшы да 28 угодкаў абвяшчэньня БНР. Сходка была на кватэры навучэнкі сярэдняй школы Лідзіі Несьцяровіч, знаёмай А.Юршэвіча. Зьбералася сем чалавек. Прысягу прымалі перад выявай "Пагоні" і бел-чырвона-белага сьцягу. Так афіцыйна адбылося заканчэньне афармленьня СПБ у Глыбокім.

Падобным чынам ствара́лася арганізацыя Саюзу Беларускіх Патрыётаў у Паставах. Пра мэханізм стварэньня, на жаль, мала вядома. Кіраўніком Пастаўскага асяродку быў Мікола Асіпенка, студэнт Пастаўскай пэдвучэльні. Матывацыя стварэньня арганізацыі была той жа, што і ў Глыбокім – барацьба з русіфікацыяй, зьнявагай усяго беларускага.



Паказальна тое, што і ў Паставах урачыстая прысяга была прынятая 25 сакавіка 1946 года ў дзень угодак БНР. Патрыёты ўзялі сабе назву "За Беларусь". Аб'яднаньне гэтых асяродкаў адбылося ўвесну 1946 праз Валянціна Лагуненку, які быў пераведзены з Глыбоцкай пэдвучэльні ў Пастаўскую. Там уступіў у мясцовую арганізацыю, а на вясновыя вакацыі паехаў у Глыбокае наведаць былых сяброў Васіля Мядзельца і Антона Фурса. Ім прызнаўся, што ў Паставах існуе маладзёвы асяродак, а Фурс і Мядзелец у сваю чаргу прызналіся пра стварэньне такой арганізацыі ў Глыбокім. Адразу ўзьнікла прапанова пра аб'яднаўчую "канфэрэнцыю". Празь некаторы час дэлегацыя з Глыбокага накіравалася ў Паставы. Так і адбылося аб'яднаньне, але ўсё гэта было хутчэй сымбалічным актам, бо не існавала адзінага кіруючага органу, ніякай агульнай праграмы.

Цяпер адчыняецца трагічная старонка гісторыі Саюзу Беларускіх Патрыётаў. Яна зьвязана з асобай "Дабрадзея". Ягонае сапраўднае прозьвішча было добра вядомым "патрыётам", яны проста не называюць яго, захоўваючы тым самым сваю чалавечую годнасьць і добрасумленнасьць. Гэта быў лейтэнант дзяржбясьпекі, які ўбіўся ў ласку хлопцам, распавядаў, што ўдзельнічае ў антыбальшавіцкім руху, а служба ў МДБ – гэта шырма. Свае кантакты тлумачыў тым, што прыйшоў час яднаць сілы, што нерашучасьць толькі на руку бальшавіком. Дабрадзей карыстаўся даверам у хлопцаў. Зьявіўся ён напачатку ў Паставах, потым пазнаёміўся і з глыбоцкімі хлопцамі. Сакрэт даверу ў тым, што "Дабрадзей" старэйшы гадоў на дваццаць за юнакоў, быў прыгожы, статны, пабачыўшы, як здавалася, жыцьцё. Ён быў для іх, нібыта герой з кнігі.

Хутка "Дабрадзей" ведаў усіх сяброў СБП. Пасьля нечакана ён сьцішыўся і некуды зьехаў, а потым пачаліся арышты.

Разгромлены СБП быў у лютым 1947 году. Гэтая акцыя была прысьвечана выбарам у Вярхоўны Савет БССР, якія адбываліся 9 лютага. У Глыбокім 8 лютага былі арыштаваны Васіль Мядзелец, Антон Фурс, Леў Бялевіч. Падчас мітусьні ў момант арышту Антон Фурс непрыкметна выкінуў паперы, у якіх былі сьпісы сяброў СБП і пратаколы, у палаючую печку. Вязьні былі завезеныя ў Паставы, дзе іх разьмясьцілі ў сутарэньні касьцёлу. Ля кожнага паставілі па жаўнеру з аўтаматам. Па чарзе сталі выклікаць на допыты. Дайшлі і да Васіля Мядзельца. Калі Васіль адмовіўся даваць паказаньні на сваіх сяброў, сьледчы схапіў палена, што ляжала ля грубкі, і пачаў біць вязьня па галаве і сьпіне. Праўда, адмаўляцца ад паказаньняў не было сэнсу. Энкавэдысты ўжо ўсё ведалі, і паступова арыштавалі ўсіх сяброў СБП. Справе быў нададзены гучны

**дзяржаўны характар. Допыты вялі маёры дзяржбясьпекі, бо да гэтага зьняволеных перавезьлі ў Менск. Як адзначае Васіль Мядзелец, у сьледчых была свая мэтодыка допытаў. Яны ўжо ўсё ведалі, але трэба было, каб арыштанты пацьвердзілі напісанае. Допыт звычайна доўжыўся цэлую ноч. За гэты час сьледчы падмацоўваўся ежай на вачах галоднага зьняволенага. Потым зноў допыт. Нарэшце, сьледчы адпускаў арыштанта, таго адводзілі ў камэру, і як толькі вязень клаўся спаць, праз паўгадзіны зноў яго выклікалі на допыт. Так доўжылася некалькі дзён.**

**У кожнага з патрыётаў свая сумная гісторыя арышту і допытаў. Але і сярод сьледчых былі людзі, не пазбаўленыя чалавечых пачуцьцяў. Цікавую гісторыю распавёў Алесь Амельяновіч: "Сьледчы быў у мяне Лысенка, даволі такі неблагі чалавек, ён адносіўся да мяне ветліва і аднойчы сказаў:**

- **Ну табе, хлопец, прыйдзецца многа пацярпець гора, перажыць усяго, але хто яго знае, як складзецца лёс, ты яшчэ малады, магу табе парэкамэндаваць, будзь заўсёды чалавекам, дзе б ты ня быў.**

**Былі і трагічныя недарэчнасьці. Памылкова быў арыштаваны Станіслаў Савік, які ніякіх адносінаў ня меў да СБП, толькі што ён жыў у адным пакоі з Васілём Мядзельцам і Антонам Фурсам. Таксама адбыўся беспрэцэдэнтны выпадак. Быў арыштаваны Мікола Дзеравянка, памылкова. Ён ня меў адносінаў да СПБ. На допытах, катаваньнях віны ня вызнаў і з залі суду быў адпушчаны.**

**У чырвіні 1947 году адбыўся суд над патрыётамі ў Менску, дзе былі асуджаныя 34 чалавекі, астатнія дзесяць судзілі ў Полацку ў лістападзе.**

**20 чырвіня 1947 году ў Менску быў зачытаны прысуд. Чатыром удзельнікам СПБ (Васілю Мядзельцу, Алесю Юршэвічу, Міколу Асіпенку, Валянціну Лагуненку) пагражала сьмяротнае пакараньне, але на той час яно ў СССР было адмененае (роўна за месяц да суду). Сьмерць замянялася 25 гадамі зьняволеньня і пяцьма гадамі паражэньня ў правах. Астатнім сябрам СБП былі дадзеныя тэрміны ад трох да дваццацёх пяцёх год.**

**Далей наогул страшна: за недаясеньне на сваю родную дачку – Алесю Умпіровіч — быў асуджаны яе бацька Лявон, за тое ж самае маці Янкі і Марыі Бабічаў – Ганна.**

**А далей былі канцэнтрацыйныя лягеры ў Сібіру і на Поўначы, у 1956 годзе – амністыя і цяжкае вяртаньне назад.**

**У 1992 годзе ўдзельнікі СБП былі рэгабілітаваны, але не сама арганізацыя. Яны – "патрыёты" засталіся патрыётамі і сёньня, іх зноў непакоіць незалежнасьць Беларусі, лёс роднай мовы, сапраўдных нацыянальных сымбаляў. Гэтыя людзі жывуць сярод нас, яны – жывая гісторыя, людзі, якія праз усё жыцьцё пранесьлі любоў да Бацькаўшчыны і не зламаліся.**

### Сьпіс сяброў СБП. Глыбоцкая група (тэрміны пакараньня):

1 Васіль Мядзелец – 25 год
2 Антон Фурс – 15 год.
3 Леў Бялевіч – 10 год.
4 Алесь Юршэвіч – 25 год.
5 Цярэнці Еўдакімаў – 25 год.
6 Марыя Бабіч – 10 год.
7 Янка Бабіч – 25 год.
8 Людміла Краснадубская – 10 год.
9 Ларыса Барсук – 10 год.
10 Алена Барсук – 10 год.
11 Тамара Барсук – 3 гады.
12 Алег Табола – 10 год.
13 Гардзей Клімаўскі – 10 год.
14 Віктар Дылевіч – выехаў у Польшчу, запісаўшыся каталіком і пазьбег пакараньня.
15 Мікола Пачобка – 10 год.
16 Альбэк Бачльноўскі – 10 год.
17 Пётра Сьпірковіч – 10 год.
18 Мікола Конан – 10 год.
19 Міхал Шуман – ніякіх зьвестак.
20 Павел Шуман – ніякіх зьвестак.
21 Лявон Ісазак – 10 год.
22 Віктар Бабіч – 10 год.
23 Юстын Протас – 10 год.
24 Ліда Несьцяровіч – 10 год.
25 Станіслаў Савік – 10 год.
26 Леанід Баговіч – ?





# Дадатковая праграма грантаў на 1998-1999 гг.

## Сфэры сацыяльных ды гуманітарных навук і мастацтва

На 1998-1999 акадэмічны год.

Праграма ўтворана для студэнтаў з краінаў Цэнтральнае ды Ўсходняе Эўропы, былога СССР, а таксама Манголіі. Мэта – разьвіцьцё міжкультурнае, міжрэгіянальнае мабільнасьці студэнтаў як часткі агульных намаганьняў Інстытуту Адкрытага Грамадзтва ўмацаваць акадэмічнае супрацоўніцтва паміж ды ў межах гэтых краінаў.

Гэтая праграма прапануе гранты для студэнтаў сацыяльных, гуманітарных ды мастацкіх спэцыяльнасьцяў, якія згодныя на аплату часткі кошту іхнага навучаньня. Узнагароды прапануюцца толькі на адзін акадэмічны год і складуць ад 1 да 5 тысяч даляраў ЗША.

Узнагароды прадугледжваюцца для студэнтаў (выключаючы падрыхтоўчы й першы курсы) ды выпускнікоў ВНУ у ніжэйадзначаных краінах: Альбанія, Азербайджан, Беларусь, Босьнія й Герцагавіна, Баўгарыя, Грэцыя, Чэхія, Эстонія, Грузія, Вэнгрыя, Казахстан, Кіргізія, Латвія, Летува, Македонія, Малдова, Манголія, Польшча, Румынія, Расея, Славакія, Славенія, Таджыкістан, Украіна, Югаславія.

**Зацікаўлены мусіць:**

- Быць задзейнічаным у праграмах па сацыяльных, гуманітарных або мастацкіх навуках або ў навучаньні ў названых краінах.
- Быць грамадзянінам або пастаянным жыхаром любой з гэтых краінаў.
- Мець добрыя адзнакі акадэмічных дасягненьняў, засьведчаныя ў публікацыях.
- Мець доказ добрых ведаў моўных навыкаў краіны навучаньня.
- Прадэманстраваць згоду вярнуцца ў сваю краіну пасьля атрыманьня сваёй ступені.
- Даказаць наяўнасьць крыніцаў падтрымкі.

**Крытэры адбору**

Адпаведнасьць усіх жадаючых крытэрам адбору будзе пацьверджана. Адбор будзе грунтавацца на акадэмічных рысах як заяўнікаў, так і прапанаваных курсах, мэтах, выказаных у эсэ, а таксама на запоўненых анкетах (асабліва адносна доказаў наяўнасьці падтрымкі).

**Як зьвяртацца?**

Запоўніце анкету на ангельскай або на Вашай роднай мове з поўным пацьверджаньнем дадзеных па-ангельску. Пацьвердзіце дакумэнтам ад стыпэндыйнага офісу прадстаўніцтва фонду Сораса ў Вашай краіне, у краіне, дзе Вы будзеце вучыцца, або па наступнай адрэсе:

Open Society Institute
Network Scholarship Programs
Oktober 6. u.12
1051 Budapest, Hungary

**Па дадатковую інфармацыю або/ды па анкеты зьвяртайцеся да Наташы Пазьняковай:**

Tel: (7-095) 928-0926
Fax: (7-095) 288-9512
E-mail: pozdn@osi.ru

Паштовая ардэса:
107078 Russia, Moscow
B. Kozlovsky per. 13/17
Network Scholarships Program
Open Society Institute.

# Сам сабе гаспадар

## або "Вучнёўскае самакіраваньне"

Гэтае выданьне, першае ў сваім родзе, зьявілася на Беларусі зь ініцыятывы польскай фундацыі "Адукацыя для Дэмакратыі" і мае бясконцае мноства прывабных рысаў, напрыклад:



- вялікія літары;
- яскравыя малюнкі;
- даходлівыя сьхемы;
- трапныя азначэньні;
- канкрэтныя парады;
- інструкцыя, як арганізоўваць спатканьні, а таксама сакрэты лідэрства;
- адказы на жыцьцёва важныя пытаньні тыпу:

**Дзе ўзяць добрага апекуна?**
**Ці варта ведаць законы?**
**Што такое грамадзянскае непаслушэнства?**
**Добраахвотнікі — як іх знайсьці?..**

А таксама зусім сур'ёзны праектны плян дзеяньняў вучнёўскага самакіраваньня, які складаецца з наступных пунктаў:

- праца з выпускнікамі;
- экалёгія;



- забаўляльныя мерапрыемствы, конкурсы;
- кантакты з вучнямі, настаўнікамі, бацькамі, адміністрацыяй;
- грамадзянская пазыцыя;
- праца на карысьць дзецям, школе, навакольнаму асяродзьдзю;
- публікацыі;
- міжнародныя сувязі;
- самаадукацыя;
- збор сродкаў;
- спорт, здароўе, бясьпека.

Прачытаўшы гэтае выданьне, Вы ня толькі добра падрыхтуецеся да пэдагагічнай практыкі, але, магчыма, дапаможаце братом Вашым меншым адчуць сябе гаспадарамі школьнага жыцьця.

**Атрымаць жа гэты практычны дапаможнік па ўвасабленьні мары дзяцінства можна ўсяго за 20 тысяч па адрасе: г.Менск, вул.Дарашэвіча, д.4, кв.2.**

# Навучаньне палітычных навукаў і фармаваньне палітычнай кар'еры ў Бэльгіі



пачатак на 5 ст.

**Дыплём**

На працягу чацьвертага году наву-чаньня студэнт піша зьмястоўную працу на абраную ім тэму. Гэтая праца ў сотню старонак прадугле-джвае дэманстрацыю студэнтам сваіх аналітычных здольнасьцяў і іх практычнае выкарыстаньне. Гэты навуковы твор разглядаецца і ацэнь-ваецца спэцыяльным журы.

**Палітычная кар'ера**

Парадаксальна, але мала людзей, якія атрымалі адукацыю ў сфэры палітычных навук, знаходзяць пра-цоўнае месца ў палітычнай сфэры. Паводле сваёй структуры бэльгійскі палітычны сьвет адносна незалежны ад унівэрсытэцкага асяродзьдзя. Хаця пераважная большасьць бэльгійскіх палітычных дзеячоў мае ўнівэрсытэцкую адукацыю, ліцэнцыяты палітычных навук складаюць сярод іх меншасьць. Некаторыя асобы з такой спэцыялізацыяй працуюць юрыстамі, іншыя экана-містамі або сацыёлягамі. У параў-наньні з Францыяй, дзе бліскучая палітычная кар'ера фармуецца аба-вязкова праз Нацыянальную Адмі-ністрацыйную Школу, палітыная кар'ера ў Бэльгіі, наадварот, пачынаецца зь дзейнасьці ў палітычнай партыі. Сярод тых, хто займаецца актыўнай дзейнасьцю ў палітычнай партыі, асобы з найбольш адказнымі паўнамоцтвамі маюць, вядома, вышэйшую інстытуцкую або ўнівэрсытэцкую адукацыю, але зусім неабавязкова ў сфэры палітычных навук.

